# Прадмова

Гітара, фламенка, чырвоная кроў віна тэмпранільё, Сервантэс, Пікаса, Гарсія Лорка і верш Сьвятлова «Гранада». Прыблізна такой, калі я быў ва ўзросьце аўтаркі гэтай кнігі, была мая Гішпанія. Пазьней было яшчэ нешта (Бандэрас і Крус), а цяпер — да ўсяго — Анхела Эспіноса Руіс, якая, між іншым, нарадзілася ў тым жа месцы Андалусіі, дзе Пікаса з Бандэрасам. У Малазе.

Тое, што на Анхелу паболела для мяне Гішпанія, не так істотна. У Гішпаніі, так скажам, — гішпанкай меней, гішпанкай болей... Куды больш істотна тое, што не адно для мяне, а шмат для каго на паэтку з андалускай Малагі паболела Беларусь.

Вершы Анхелы я прачытаў, калі яна стала фіналісткай паэтычнага конкурсу «Эксьлібрыс». Па ўмовах конкурсу імёны ўдзельнікаў не называліся — і я нават не западозрыў, што канкурсантка, вершы якой выбраў я сярод усіх, не носьбіт беларускай мовы, увогуле не беларуска. Калі ж гэта адкрылася, дык яно стала для мяне дзівам, якому зьдзіўляюся дасюль.

Пакуль сьвятла хапае на зямлі,
Пакуль шчэ маюць сэнс пустыя словы,
Пакуль ня сьціхла рэха нашай мовы,
Пакуль ня сьпім у даўнім забыцьці,
Пакуль зьмяя не запаўзла ў наш рай,
Датуль мяне ты, вечную, кахай.

У тым, як і што піша Анхела, можна адчуць падвышаную эмацыйнасць і энергетыку, калі, чытаючы, згадваць, як грае, напрыклад, гітарыст-фламенка Вінсэнтэ Аміга і танцуюць Марыя Пахес ці Мэрседэс Руіс. У беларускай паэтцы адчувальны

покліч гішпанскай паэтычнай і музычнай культуры. Ну вось, да прыкладу, радкі Гарсія Лоркі (у перакладзе М. Шчура): «Шаўковай тканіны хвалі / Дзесяць нажоў працялі. / Наўкол паўсталі пустыя / Келіхі чорных дрэваў», — і радкі Анхелы: «Ноч твая — як тысяча начэй, / Калыханка маёй сьмерці. / А нож твой — як тысяча нажоў, / Чырвоная кроў майго жыцьця». Беларускія словы накладваюцца на гішпанскія рытмы, інтанацыі — і з гэтым нічога не паробіш, бо Андалусія ёсьць Андалусія: самы поўдзень і без таго паўднёвай Гішпаніі. Зрэшты, з гэтым і рабіць нічога ня трэба, бо такое спалучэньне і ёсьць прывабнай адметнасьцю паэзіі Анхелы Эспіносы Руіс, зьяўленьне якой у нашай культуры стварае ўва мне надзею на тое, што драматызм цяперашняга стану беларускага сьвету перабольшаны, як перабольшаны драматызм стану дона Хазэ ў фінале оперы француза Бізэ пра гішпанку Кармэн.

*Уладзімер Някляеў*

# Вясна і яе жарсьці

Аб
тым,
як
прырода
і каханьне
прачынаюцца
адначасова

# Nature Vivante

Са страхам, асьцярожна й пазнавата,
Як травень месяц, цёплы ды крылаты,
Паўзе па ўсёй планеце, як зьмяя,
Ў таемным цені дня,
Нягледзячы на познюю ўжо дату,
Хаваючы сябе, нібы ад ката
Ад ластаўкі, гіля ды вераб’я,
Праменьчыкам жыцьця,
Пакуль сінечы неба набірае,
А зелень дрэваў шэпча маладая,
Бязь веры да вясны, як вецер дзьме,
Ратуючы сябе,
Малая ружа напрыканцы мая,
Самотная, прыгожая, слабая,
Са страхам, асьцярожная, расьце,
Няўзнакі, пакрысе.

# Я цябе кахаю

Я цябе кахаю так моцна,
Так моцна,
Што не магу знайсьці сярод клішэ
Вялікіх і пасрэдных паэтаў,
Якое б пасавала майму шчыраму
Каханьню да цябе.
Ні On n’a pas besoin de la Lune
Ні Hoy llega al fondo de mi alma el sol,
Нават Зорка Венера ўзышла над зямлёю
малавата.
Злётаць давядзецца з табою да сузор’я Арыён
(Альбо іншага, далейшага,
Каханьне вечнае, маем час),
І запаліць табе новую зорку,
Каб было магчыма пісаць вершы пра тое,
Што я моцна — так моцна! — цябе кахаю.

# А лес...

Раса на лісьці — кропелькі вясны,
А лес зрабіўся ясным, залацістым,
Дае зязюлям дыхаць галасістым
Духмяны водар, сонечны й густы.

На небе поўны месяц, як язьмін,
А лес такі чароўны ды магічны...
Блакітны ўзьлёт, вясновы ды касьмічны...
Ўначы сьпявае салавей адзін.

# Ранак

Сьвятло. Прачнуліся душа мая
І хараство сусьвету.
Таемна, зьлёгку лашчыць нас зямля,
Сьпявае гімны лету.

Высокі звон пяшчоты чыста б’е,
На небе вянуць хмары.
Самоты нашай шэрань растае,
Квітнеюць крозы, мары.

А сэрца падымаецца маё
Да зор з самога долу:
Кахаць цябе я буду ўсё жыцьцё,
Душа, з твайго дазволу.

# Дзьве ружы

Вясна нарадзіла дзьве ружы,
Абедзьве чырвоныя.
Першая заўчасна памірае на стале,
Другая цячэ з закаханага сэрца.
Вясна нарадзіла дзьве ружы,
Абедзьве безабаронныя.
Першая сухая, ужо цямнее,
Другая цячэ з глыбіні душы.
Вясна нарадзіла дзьве ружы,
Абедзьве эфемерныя:
Гэта значыць, што не пазнаюць лета,
Бо вясна і першую, і другую
Заб’е.

# Кветка

О вясновая кветка, першародная,
Ты нараджаесься ў сонных нашых абдымках!
Падымаецца павольна сонца,
Як адважны князь з залатым мячом.
Падымаецца...
Падымаесься ты, о кветка крыві,
Сакральная ды грэшная.
Выцягваеш мяне з туманоў крозаў,
Дзе жыве забыцьцё.

# Крылы

Я нарадзілася хваляй марскою
Зь цёплай, салодкае пены,
Вырасла бурнай маланкай сырою,
Мне далі крылы сырэны.

Птушкай паўночнай ляціш над зямлёю,
Дзьмеш ты, як вецер нязьменны.
Ты стаў крылатым журлівай зімою,
Мне далі крылы сырэны.

Кветкі фарбуюць паляны крывёю,
Сыпле сьвет срэбрам Селена.
Мілы, да зор даляцім раніцою,
Мне далі крылы сырэны.

Захаду чырвань нас кліча да бою,
Грэе каханьне нам вены.
Ластаўкі Марса далі табе зброю,
Мне далі крылы сырэны.

Зноўку прачнемся багатай вясною
З прысмакам сьлёзаў вярбены.
Ружа вятроў нас падхопіць з табою,
Нам далі крылы сырэны.

# Песьня дрэваў

Пачую колісь, як сьпяваюць дрэвы,
Запомняць і яны з табой спатканьне.
Праз сьмех, праз сьлёзы, праз тваё каханьне,
Пачую колісь, як сьпяваюць дрэвы.
Нясе нам вецер ласкі й абяцаньні,
Тваёю ў гэтым лесе стану Евай.
Пачую колісь, як сьпяваюць дрэвы,
Запомняць і яны з табой спатканьне.

* * *

Раней мы з табою над небам жылі,
Аблокаў ня зналі з табою.
З касьмічнае цемры сыйшлі мы, калі
Ударыў Пярун над зямлёю.

Дажджом на зямлю ўпалі колісь і мы,
Балюча й несвоечасова,
Я — сонца дачкой, сынам ты чарнаты.
Сустрэліся зноў выпадкова.

Знайшліся паловы, настане быцьцё,
Да пекла хай спусьціцца лесьвіца.
Хай будзе каханьне, хай будзе жыцьцё,
А мо, прыгажосьць не спатрэбіцца.

# Нічога

Пасьля цябе нічога
Не змусіць сэрца біцца так. Нікога
Ня будзе, каб пісаць яму санэты,
І гэты
Мой сьціплы верш узвысіцца да неба:
Так трэба.
І статуяю стану белай солі.
Ніколі
Ня ўстане над планетай болей сонца,
Ня будзе зор, каханьня, кветак, бога,
Ня будзе больш, я паўтару бясконца,
Пасьля цябе нічога.



# Час, які пажырае каханьне

Аб
тым,
што
не
заўсёды
ад
нас
залежыць

* * *

Пакуль не пагражае нам Сатурн,
Пакуль крылаты дзень не памірае,
Пакуль навокал зелень не сухая,
Пакуль душа ня знае чорных урн,

Пакуль кроў льецца нібы дождж, бяз болю,
Пакуль сінее вечар загарэлы,
Пакуль вясновым мёдам тваё цела
Шчэ пахне, ды мае марскою сольлю,

Пакуль сьвятла хапае на зямлі,
Пакуль шчэ маюць сэнс пустыя словы,
Пакуль ня сьціхла рэха нашай мовы,
Пакуль ня сьпім у даўнім забыцьці,

Пакуль зьмяя не запаўзла ў наш рай,
Датуль мяне ты, вечную, кахай.

# Нож

Ноч твая — як тысяча начэй,
Калыханка маёй сьмерці.
А нож твой — як тысяча нажоў,
Чырвоная кроў майго жыцьця.
Ваганьнем каханьня,
Голымі і яснымі,
Чыстымі,
Мы нарадзілася адно дзеля аднаго.
І нараджаліся кожным разам
У штодзённасьці тваіх начэй,
У сьвяточнасьці тваіх нажоў,
У мімалётнасьці тваіх вачэй,
Дзе жывуць і сьмерць, і надзея, і кроў.

# Бывай

Бывай, о неба цёмна-залатое!
Бывай, язьмін апошняй летняй ночы!
Бывайце, цнота ружы маладое,
І лістападаўска-марскія вочы!

Бывай, о мімалётная маланка!
Бывай, салодка-горкі смак жыцьця!
Бывайце, рукі шчырага каханка
І мілагучны голас салаўя!

Бывай, бо сёньня вернемся мы ў прах!
Бывай, бывай, бо мне даўно пара!
Бывай, мой асабісты млечны шлях,
Бывай, мая палярная зара.

# Невуцтва

Каб я ведала, што вясна
Працягнецца толькі хвіліну,
Каб я ведала, што рака
Замерзьне ўзімку з табой,
Каб я ведала, што душа
Ня вытрывае больш пакутаў,
Каб я ведала, што пчала
З пчалою — яшчэ ня рой...
Я б стала ценем
Тваіх ног,
Каб ісьці разам з табою,
Ценем
Тваіх думак,
Каб марыць разам з табою,
Ценем
Твайго ценю,
Каб дыхаць толькі табою,
І не замінаць ніколі
Табе, табе, табе...

# Разьвітаньне

Жахлівы ранак у магічнай прозе,
Прытульваесься ззаду непрыстойна.
Сьляды супольнай жарсьці сьпяць спакойна
Ў паветры, як на скуры й на падлозе.

Напаў на нас пах сотні хрызантэм,
Ідзём рука ў руццэ тужліва, мілы.
Зноў вецер дзьме, як чорны дым бяз сілы...
Як хмара ўсьмешка — сёньня мы памрэм.

І сьлёзы Вісла п’е на разьвітаньне,
Якімі плача сумны наш трамвай...,
А едзем мы, ды пакідаем рай:
Каменні ў небе, на зямлі — ваганьні.

Бо дзіўная каханьне, кажуць, з’ява.
З пяшчотай абдымае нас Варшава.

# Прабачэньні

Няхай даруюць мне
Кветкі, пчолы, трава,
Няхай даруюць мне мора й неба.
Няхай даруюць мне
Зоркі ясных начэй:
Безь цябе мне нічога ня трэба.
    Няхай даруюць мне
    Крылы ластавак, мёд,
    Хай даруюць аблокі ды дрэвы,
    Няхай даруюць мне
    Лісьце, восень і лёд:
    Безь цябе мне нічога ня трэба.
Няхай даруюць мне
Красавік і рака,
Вецер, раніца, птушкі ды сьмех,
І намёкі жыцьця
Няхай даруюць мне:
Сэрца б’ецца ды б’ецца ўва мне.
    Няхай даруюць мне
    Сонца соннае, сьнег,
    Хай дарue нам шчасьце, душа.
    І даруй, даруй ты,
    І ў забыты наш рай
    Уцякай, уцякай, уцякай.
Хай даруюць і сны,
Прыгажосьць і сябры,
Я хачу толькі ўбачыць цябе:
Лістапад у вачах,
У гарах — дзьмухавец,
І ляцець, і ляцець, і ляцець..!

# Колеры вянуць у Леце

Вецер насіў вясны колеры,
Вецер пафарбаваў неба.
Добра дзьмуў вецер для лётчыкаў,
Ластавак чорных над глебай.

Мілы, ты летняе сонца, мне
Побач ляцець небясьпечна.
Я празь цябе ўпала зоркаю,
Толькі ў табе стала вечнай.

Хутка зьцямнела нам раніцай,
Хутка мой дотык стаў пылам,
Рэха майго крыку «памятай!»
Не даравала магіла.

Хутка зьнямела каханьне, бо
Ты незнаёмы ў тым сьвеце.
Вецер вясеньні нам здрадзіў, так!..
Колеры вянуць у Леце.

# Ты сьпіш

Дождж ліецца, плачуць салаўі,
Падхоплівае вецер шэпт бярозы.
Ты сьпіш, ты добранькі такі!..
Я чую, як квітнеюць туберозы.

На рукі да мяне хадзі,
Любоўю накармлю цябе сваёю.
Ты сьпіш, ты добранькі такі!..
Квітнеюць ружы на шчацэ крывёю.

Перажылі мы ўсе баі,
На небе загрымела зноў вайна.
Ты сьпіш, ты добранькі такі!..
Супроць жыцьця паўстане сьмерць адна.

Ляжыць каханьне на зямлі,
На ложку паміраюць пацалункі.
Ты сьпіш, ты добранькі такі!..
Я сплю, і сьпяць сьвядомасьць, сьлёзы, думкі.

# Міхасю Стральцову

Нябеснай калыханкай засынае
Павольна сонца між духмяных руж,
І зьзяе зорка закаханых душ.
Вятрыска ў летнім садзе заціхае.

Стаіць у садзе старажытны дуб,
Паміж галінаў клетка залатая,
А ў клетцы плача птушачка начная,
Як згублены ў сумневах самагуб.

І гэта толькі ты, мая турма,
Бо жарсьць твая ўзяла мяне ў палон.
Як птушка на самоце сэрца б’е.

Ты кветка дню, ты рэха салаўя,
Мая няволя — цуд мой, ды праклён,
Гучыць мой сумны голас для цябе.

# Зоркі былі супраць нас

*Да А. А.*

Ты быў маёй недасяжнаю марай,
Я — твой пякельны экстаз.
Катам ты стаў, а тваёй я ахвярай,
Зоркі былі супраць нас.

Лашчыла сьпіну вятрыска каханьня,
Сьцяг наш лунаў напаказ.
Кінула ноч карабель у блуканьні,
Зоркі былі супраць нас.

Па навальніцы, пасьля твайго болю,
Пасьля вайны мілых фраз,
Раны нам прыйдзецца вылечыць сольлю,
Зоркі былі супраць нас.

Не вінаваць сябе, мілы, ня трэба!
Лёс даў суворы наказ:
Наша растаньне было воляй неба —
Зоркі былі супраць нас.

Ты ў маёй памяці будзеш заўсёды,
Джаліцьмеш сэрца штораз.
Не пераможам мы сілаў прыроды,
Зоркі былі супраць нас.

Страчаны вечна, ды вечна чаканы,
Покуль ня з’есьць мяне Час...
Зоркі былі супраць нас, мой каханы,
Зоркі былі супраць нас.

# Плынуць зімовыя ветры

Аб
тым,
што
прыгажосьць
зімы
літасьці
ня
знае

# Зімовая калыханка

Лётаюць, лётаюць нізкія птушкі,
Неба сьпявае
Белыя вершы ў халодныя вушкі,
Траўка чакае,
І над ракой сьцяг туману лунае.
Сьцюжа на дрэвах і сьнегу вяснушкі,
Ружа ўмірае.
Туліць паэт галаву да падушкі,
Птушка ўзьлятае.
І пад зямлёю вясна засынае.

# Сьнежань

Прачнуўся сьнежань, сьнег не запазніўся:
Мяне віхор халодны падхапіў,
Душа ўздымаецца без успамінаў,
Я вольная — гасанна на зямлі!

Сьнег падхапіў і грэх мой першародны,
Дзіўлюся ў захапленьні, як дзіця,
Я чыстая — гасанна на вышынях!
Бо сьнег жыве, а ты — ужо вада.

* * *

Выйдзеш ты колісь марознай зімою,
Колісь сустрэне бясплодная глеба.
Сьцюжа навокал і сьнег пад табою,
А над табою бяззорнае неба.

Перад табой шлях у страчаны рай.
Памяць забытая, страх за табою,
Ты зь лёгкім сэрцам пакінеш наш край,
Выйдзеш ты колісь марознай зімою.

Колісь за сьпінаю вецер задзьме,
Выйдзеш ты колісь марознай зімою.
Жорсткая, злая зіма безь цябе,
А мая песьня заўсёды з табою.

# Паўночны вецер

Паўночны вецер, дзьмуў ты нада мною,
Сьпякотны вецер, як пякельны лёд,
Маёй душы ты падарыў узьлёт
Грахоўным вершам, потам ды крывёю.

Паўночны бог, магутны, злы тытан,
Грымотнага дажджу галосны крык,
Ты перамог мяне, шалёны бык,
Ты падхапіў мяне, як ураган.

Паўночны вецер, мілае стамленьне,
Глухое навальніцы рэзкі шквал,
Злуюся на пагоду, сонца й ранак...

Твой шэпт прынёс і страх, і захапленьне,
Як бард, пяшчотны, грубы, як вандал,
Мой вікінг, мімалётны мой каханак.

# Дысананс

Зіма
Ты ноччу ўпала каля ног
Раптоўна
Нечакана
Нібы бог
Забыты
Як зь вядра
Кідае зь неба
Жыцьця
Камусьці хлеба
Сьмерці раньняй
І сьвятла
Чаму чаму зіма
Пышная коўдра цела
Прыкрывае
Імглою халадамі
Чаму чаму зіма
Як толькі сонца села
І засьпявала зорка залатая
Марознай белай ды мінорнай ноччу
Ўсе цягаем
Мы коўдру сьнегу
Голымі мажорнымі рукамі

# Сакавік

А праўда, што хутка вясна?
А праўда, вясна неўзабаве?
А праўда схаваная ўся
У гушчы колішняе кавы.

А праўда, што сыйдзе мароз?
А праўда, што вернецца сонца?
А праўда: сьмяецца з нас лёс
Паўночнай зімою бясконца.

А праўда, жыве цеплыня?
А праўда, настане надзея?
А праўда, што прыйдзе вясна,
Чароўная добрая фея?

А праўда, вясна прыйдзе зноў?
А праўда, вясна праз хвіліну?
Губляюцца вера й любоў,
У холадзе мёртвай гадзіны.

А праўда, што хутка вясна?
А праўда, што хутка каханьне?
Ў труне засынае душа,
А мы застанемся ў чаканьні.

# Антывосеньская

Спачатку падмяталі лісьце
З брукаванкі старога горада,
Самотнага.
Пасля старанна высушылі
Ўсе лужыны.
Потым падагрэлі зямлю
Неяк знутры,
Невядома, як.
Рэпатрыявалі ластавак
І дэпартавалі першы сьнег,
Прыбралі хмары
І пафарбавалі ноч у сьветлыя колеры.
Ніколі дагэтуль і думкі не было
Пра тое,
Наколькі мяне сонца
Часам
Раздражняе.

* * *

Сустрэнемся з табою на студзеньскім сьвітанку.
Пара: як выйдзе сонца, нас выдаліць сьвятло...
Малююць нас узоры беласьнежняга ранку,
А зямля нам рэжа ногі, нібы шкло.

Сустрэнемся мы ў ценях бязьлітаснага дня.
Сустрэнемся, бо сэрца прывыкла да самоты:
Даўно ў душы замерзьлі намёкі небыцьця,
А ці помніш, як баяліся цямноты?

Сустрэнемся з табою, як змоўкне салавей,
З надзор'я як загляне ўніз месяц, нібы з гліны.
Сустрэнемся з табою на пяць хвілін раней,
Чым настане каманданцкая гадзіна.

# Яму і ўсім такім

Табе, хто знае ўсе мае сакрэты,
Табе, што моўчкі падымаеш вочы,
Табе, о праўды зорка цёмнай ночы,
Чытач схаваных, таямнічых сьветаў.

Табе пішу, адважны дабрадзею,
Малюся і ў бяссоніцу, і зранку
Табе, што можаш калісь на сьвітанку
Забіць маю апошнюю надзею.

Захоўвай маё сэрца ста ключамі:
Хай словы вецер панясе крылаты,
А песьні застаюцца паміж намі.

Жыцьцё хоць вечна коліць халадамі,
І ружамі каханьня ў дзень пракляты,
У цемры ўласны лёс ствараем самі.

# Забаронена

1. Грамадзянам забараняецца насіць кветкі,
Настойліва раіцца насіць замест іх зброю.
2. Сьценам забараняецца сьпяваць.
Настойліва раіцца слухаць.
3. Грамадзянам забараняецца захоўваць у сябе
кнігі,
Настойліва раіцца рэгулярна чысьціць паліцы.
4. Мамам забараняецца сьпяваць калыханкі,
Настойліва раіцца поўнае маўчаньне.
5. Грамадзянам забараняецца ўсьміхацца
З шырынёю больш за 1.5 см у абодва бакі.
6. Зоркам забараняецца сьвяціць
У адлегласьці меньш за 157 сьветлавых гадоў
ад закаханых паэтаў.
7. Паэтам забараняецца закохвацца.
Настойліва раіцца застрэліцца
Пасьля падачы адпаведнай заявы ў цэнтральную
камісію.
8. Грамадзянам забараняецца пісаць вершы,
Пры парушэньні гэтай забароны настойліва
раіцца зьвярнуцца
Адразу да сёмага (7) пункту.

Дзякуй за ўвагу.

# Ільвіца

Па паляваньні я — твая ільвіца:
Нікуды не ўцячэш, бо ты ўжо мой.
Дастаў Амур стралою залатой,
Па паляваньні я — твая ільвіца.
У сэрцы быў гарачы, жорсткі бой,
Напала на цябе, як бліскавіца.
Па паляваньні я — твая ільвіца:
Нікуды не ўцячэш, бо ты ўжо мой.

* * *

Каханьне, дыханьне, пот, трызьненьне, кроў,
І скуры са скурай салодкая стома,
Прызнаньне, жаданьне, зьнішчэньне Садома,
Каханьне, дыханьне, пот, трызьненьне, кроў,
Маўчаньне, растаньне, апошні крык грому,
Спатканьне, гучаньне неакрэсьленых слоў,
Каханьне, дыханьне, пот, трызьненьне, кроў,
І скуры са скурай салодкая стома.

# Чаканьне (Беларусі)

Калі пабачу я цябе
І сыйдзе ўжо цямнота?
Чаму скрозь жорсткая самота,
Калі пабачу я цябе?
Пануе ў галаве дрымота...
Чаму так сумна сэрца б’е,
Калі пабачу я цябе
І сыйдзе ўжо цямнота?

# Пасэйдон

Горка плакаў кароль Пасэйдон,
Навальніца над морам крычала.
Амфітрыта-сырэнка прапала,
Горка плакаў кароль Пасэйдон.
Чаго ў пекле багіня шукала?
Кахаў Гадэс сваіх Пэрсефон?
Горка плакаў кароль Пасэйдон,
Навальніца над морам крычала.

# Восеньскі парк

Каханы: гібель ты мая, маё паветра.
Я дыхаю табой, я дыхаю цябе,
Я лісьце, што віхор твой восеньскі нясе.
Каханы: гібель ты мая, маё паветра.
Марозны твой уздых атрутаю заб'е
І буду крозай я, і буду шэптам ветру.
Каханы: гібель ты мая, маё паветра.
Я дыхаю табой, я дыхаю цябе.

# Parque otocal
## (пераклад на гішпанскую мову)

Amor: eres mi muerte, el aire que respiro
Inhalo yo contigo, exhalo yo de ti
Soy hoja en el ciclyn de tu otoco sin fin
Amor: eres mi muerte, el aire que respiro
Por tu aliento glacial, nocivo, he de morir
Y serй solo un sueco, y del viento un suspiro
Amor: eres mi muerte, el aire que respiro
Inhalo yo contigo, exhalo yo de ti.

# Марскі трыялет

Ці магу жыць далёка, бяз мора,
Дзе бязьлітасна ноч застывае?
Дрыжаць рукі ды сэрца пытае,
Ці магу жыць далёка, бяз мора.
А вачэй тваіх сінь саграває,
Не хвалююся ўжо, як учора,
Ці магу жыць далёка, бяз мора,
Дзе бязьлітасна ноч застывае.

* * *

Не папрашу, каб забыў пра мяне,
Не папрашу, бо прасіць і ня трэба.
Ты для мяне быў зямлёю ды небам,
Не папрашу, каб забыў пра мяне.
Каменем быў, верай быў ты ды хлебам,
Птушкай была для цябе я ў вакне.
Не папрашу, каб забыў пра мяне,
Не папрашу, бо прасіць і ня трэба.

* * *

Дзе ты на ніве зоркаў,
Ноч вечнага жыцьця?
Няма ні сну, ні дня,
Дзе ты на ніве зоркаў.
І слоў ужо няма
Міцкевічаў і Лоркаў.
Дзе ты на ніве зоркаў,
Ноч вечнага жыцьця?

* * *

Нечакана сыйшоў, як прыйшоў,
І застаўся наш ложак пустым.
Не, ня будзе вяртаньня, бо ты
Нечакана сыйшоў, як прыйшоў.
Больш ня будзе змаганьняў душы,
Больш ня будзе любоўных лістоў —
Нечакана сыйшоў, як прыйшоў,
І застаўся наш ложак пустым.

# Каротка пра Лорку

Далёкая Гранада — сьпяваў калісьці Лорка.
Паэт сьпіць пад зямлёю, а над Альгамбрай зоркі
Чытаюць яго вершы планэтам і цямноце.
Пісаў паэт «каханьне», а думаў аб самоце.

# Іншасьць

Адчуваю сваю іншасьць
Кожны дзень,
Выразна, балюча,
Бачу, ясна бачу
Сваімі цёмнымі вачыма.
Толькі калі ты, чытач,
Мяне гартаеш, і пасьля
Я, прачытаная табою,
Ляжу паміж зямлёй і нарацыяй,
Толькі тады я — кніга,
Я твая,
А ня іншая.

# Albus lepus

Паглядзеў на гадзіньнік раптоўна,
І, як вецер, уцёк ад мяне.
Бестактоўна пакінуў, бясслоўна,
Без краіны й магічных дзьвярэй.

І забылася я пра жыцьцё,
Пра ўкус горкае сьмерці-цукеркі,
А жаданае пекла тваё
Ужо зь іншага боку люстэрка.

Як нам вечны прайсьці калідор?
Як дайсьці да твайго мне вар’яцтва,
Калі мне замінае дакор,
А табе замінае грамадства?

# Чарната

Мяне ніхто не навучыў, што рабіць,
Калі гнеўныя хмары плямяць неба,
І не відаць ні зоркі, ні планэты,
А на дварэ прахалодна й самотна;
Калі дрымота поўніць галаву,
Імгла напаўняе сэрца,
І адказы зьмешваюцца з пытаньнямі;
Калі губляецца ціхі, кволы ранак,
І паміж намі нешта аднaчасова
Здараецца і не здараецца.
Застаецца ўстаць з падлогі,
Сьцерці зь сябе старажытны пыл,
І прайсьці свой шлях да канца,
Хоць павольна, хоць у цемры.

# Самалёт

*Прысьвячаецца*
*Хаяо Міядзакі*

Узьляцеў папяровы, як дух, самалёт,
А насустрач яму — зарапад.
Ён — як цёмнае сонца й гарачы, як лёд,
І ня будзе малочнага шляху назад!

Самалёт — летунок, такі лёгкі, як сон,
Успамінаў прымроены рой,
Гэта вечнасьць хвіліны, каханьня палон
І крыляньне сьняжынак зімой.

Зоркі-чайкі ракою да мора плывуць,
Да нябёс — чарада нерэід...
Ці глынём мы пакорліва згорклую труць,
Ці ня ўбачыць ніколі зямля пірамід.

# Ластаўкам

Ластаўкі чорныя зь берагу Ніла,
Гнёзды ўяце вы ў душы.
Рунь маладая расьце на магілах,
Так, у пачатку вясны.

Яблыня ўжо — не спакуса для Эвы,
З вамі ляцяць туманы.
Будзіцца зелень магутнага дрэва,
Так, у пачатку вясны.

Ластаўка цемры сядзіць на парогу,
Ў ружах губляюцца сны.
Шчасны кот дзесь пераходзіць дарогу,
Так, у пачатку вясны.

Недзе зязюля пяе над ракою,
«Скуль вы ляціце й куды?»
Вецер задзьмеў над зямлёю сырою,
Так, у пачатку вясны.

Плачуць дзесь новым жыцьцём немаўляты,
Плача сьнягір дзесь лясны,
Дзесь падымаецца цень ваш крылаты,
Так, у пачатку вясны.

Ластаўка ластаўкай дзесь па дарозе
Згублена ў сьнезе зімы.
Хто ж адшукае, знайсьці хто ж у змозе,
Так, у пачатку вясны?

Ластаўкі летась забралі ўсе мары,
Летась чамусьці і ты
Зь імі зьляцеў за ружовыя хмары,
Так, у пачатку вясны.

Сёньня скажыце, праклятыя, злыя
Ластаўкі: па каго вы?
Ці праляціце вы з брызам, што вые
Так, у пачатку вясны?

# Існаваньне

Калі стаю, дзе ты стаяў
Пад старажытным дрэвам,
Там, дзе паэт пазнаў сьвятло
І яблык гожай Эвы;
Дзе прагучылі ўпершыню
Ламенты і балады,
Diabulus in musica
І райская трыяда;
Дзе падаюць зь нябёсаў сны
І пыл далёкіх зоркаў,
Там, дзе сьпяваюць пад зямлёй
Шматмоўныя гаворкі...
Калі стаю, дзе ты стаяў,
Спыняецца дыханьне:
Здаецца, помню, што ты быў,
А памяць — існаваньне.

# Віно на залатой коўдры восені

Аб
восеньскіх
колерах
у
душы
чалавека

* * *

Далёкае места плавае
Ў моры цёмнага піва.
Нам — ноч,
Птушкам — ніву.

Далёкае места плавае
Ў моры замежных моў.
Нам — каханьне,
Птушкам — кроў.

Далёкае места плавае
Ў моры разьбітага шкла.
Птушкам — неба,
Нам — віна.

# Кіхотава віно

Кіхот упадабаў віно,
Цяпер ён прагне сам дрымоты,
Душыць духоўны хоча боль
У келіху крыві ды поту.

Кіхотава пяе душа,
А душыць песьню цёмным півам.
Ужо ня бачыць Дон Кіхот
Бляск зоркаў над начною нівай.

Кіхот упадабаў віно,
Прыйшло пахмельле. Дульцынэя
Ўцякла далёка ды даўно,
Як і Кіхотава надзея.

Кіхот ня верыць у дабро.
Кіхот ня верыць у цямноту.
Кіхот... Ён верыць у віно
У келіху віны й самоты.

* * *

Плыве няўзнак рака
Чырвонага віна. Віны няма.
Грымяць далёка буры,
А ты бяжыш мурашкамі па скуры.
Стаіць бэтонны дом,
А ты мне сьнісься ціхім, шэрым сном.
Гучыць нэрвовы сьмех
І рэха стрэлу на мяжы, як грэх.
Прабач, каханы мой,
Ня можна зьбегчы з клеткі залатой,
Бо ты, як я — слабы,
І зьбегчы нам ужо няма куды.
Даруй мне, мілы мой,
Цямнота авалодае табой...
Плыве няўзнак рака
Тваёй, маёй крыві. Няма віна,
А падалося мне,
Што сёньня мора ўбачыла ў акне.

* * *

Чырвонае, мокрае лісьце,
Чырвонае, сухое віно,
Чырвоныя, гарачыя шчокі —
Несьвятая троіца
Нашай мёртвай восені.

Блакітнае, марознае неба,
Блакітная, патасная рака,
Блакітныя твае вочы —
Троіца трэцяга дню:
Восень не ўваскрэсьне.

# Хвілінка

Руды кот перайшоў нам дарогу
Там, дзе цені малюе Дзьвіна,
Пацалункі стаяць на парогу
Перад домам пахмельля й сьвятла,
Піўны дождж абмывае падлогу,
А шчаку абмывае сьляза.
Утапілі мы ў рэчцы нязмогу,
І растала сівая зіма,
Аказаў нам сам лёс дапамогу,
Мы ідзём, дзе нікога няма,
Словы выдаліць кат некралёгу,
Бо жыцьцё дапіваем да дна.
Хай сьвяткуе народ перамогу,
Хай ідзе разуменьня труна,
А мы молімся грэцкаму богу
За хвілінку ды келіх віна.

* * *

Як восеньскае лісьце, выпала
Тваё каханьне,
Як восеньскае лісьце.
Палілі нас, як сонца летняе,
Твае ваганьні,
Як сонца летняе.
Як кветка ўвесну зноўку вырасла
Маё змаганьне,
Як кветка ўвесну.
Як сьнег зімовы прагучала зноў
Тваё маўчаньне,
Як сьнег зімовы.

# Лістапад

Зіма, як белы павук
Заткала вокны старажытнымі ўзорамі,
Вусны крывёю ды болем,
І сэрцы абыякавым холадам.
Які люты час лістападаўскі
Для закаханых!
Жарсьць ідзе спаць, і прачынаецца
Сьвядомая, разумная муза.
Лістападзе, ты — жнівень паэтаў!



Дождж, дождж першабытны
Ад самога пачатку часу, прасторы,
Мысьленьня.
Ламаецца ноч, як забытая лялька,
І дождж ідзе.
Абяцаю табе небыцьцё
Назаўжды. На пяць хвілінаў,
На дзьве гадзіны, на дваццатае стагодзьдзе.
Мімалётная вечнасьць. Дождж.
Не абяцай мне сонца,
Якога тут няма,
І сьвятла.
Раніца. Канец часу, прасторы,
Каханьня.
Яшчэ адну хвіліну...
Дождж, дождж апошні.
Быцьцё.



Падае чырвонае лісьце
Першы раз, як быццам бы апошні.
Недапітая гарбата астывае
Ў забыцьці.
Ляжыць коўдра меланхоліі
Пад нагамі тваімі,
Няўзнакі.
Восеньскі вецер нясе золата
І зламаныя крылы грэшных анёлаў
Назаўжды,
Безь вяртаньня...
Навошта нам ведаць, колькі часу,
Калі спыніліся ўсе гадзіньнікі
Раптоўна,
І пануе выразны пах голых каштанаў
Мімалётна,
І вечнае дрэва жыцьця
Лашчыць хмары маёй ночы?
І лісьце падае, фарбуе паветра
Сваімі малінавымі пацалункамі,
І лёгкае дыханьне губляецца,
Хаваецца пад мёртвай коўдрай
Нашай.

# Гародня

Да зямель зноў вярнуся, дзе Нёман плыве,
Выпадкова на вуліцы ўбачу цябе.
Ты мне ў вочы паглядзіш, быццам першы раз,
І забудзем прастору, забудзем і час,
Выхаваньне, каханьне, сьвядомасьць, быцьцё:
Да цябе я вярнуся; са мной — забыцьцё.
У шчаку пацалуеш на беразе раю,
Пакаштую цябе, яблык твой пакусаю.
Ты захопісься мной, як Адам захапіўся,
І мы там саграшым, дзе Хрыстос прызямліўся.

# Беларусь сьпіць

Беларусь сьпіць пад цёплай, шэрай коўдрай,
І ня можа пазбавіцца кашмараў.
Баіцца зваліцца з ложка,
Амаль не рухаецца.
Я хачу сьпяваць ёй калыханку,
І пацалаваць на ноч.
Сьпі ціха, спакойна, мая дзяўчынка,
Прачынайся ранкам, з новым днём,
Калі сонца зьнішчыць цемру
Мячом сьвятла,
Калі прыйдзе вясна ў каляровай сукенцы,
Сьпі спакойна й прачынайся ў той час,
Калі спакою будзе недастаткова.

* * *

Апошняя вясна з’ела мяне
Нібыта цалкам,
Як галодны, квяцісты леў.
Выбуховыя лілеі,
Я б падумала,
Зьнішчылі маю закаханую душу,
Зрабілі з майго сэрца
Мэханічную вылічальную машынку.
Усё ж па леце не павінна быць кветак,
А ты ёсьць.
Ты пасьля першабытнага дажджу,
Як заклік горкай праўдзе,
Як натхненьне паэтам,
Як ружа мімалётная,
Лістападаўская.
Калі б я магла спыніць час
І зрабіць так,
Каб вярталіся назад гадзіньнікі,
Хоць на хвіліну,
Дзесяць,
Тысячу,
Безьліч,
Я б прыехала да цябе адразу,
Маладою, амаль прыгожаю,
Непасрэднаю.
Каб я ведала тады,
Што цяпер,

Каб я адчувала цяпер,
Што тады,
Я б не задумалася;
Пашкадавала б сваіх сьлёзаў,
Тваіх доўгіх, зімовых начэй,
І нас.

# Люблю беларуса

Люблю беларуса за добрыя жаданьні
На мяжы,
І за «картачкі праезду, глядзіце,
Не згубіце».
Люблю беларуса за дапамогу,
За разуменьне, за цярпеньне,
За мову.
За «давайце я пяць вазьму,
А Вы не пераймайцеся».
Люблю беларуса за зьвяртаньне
Да мяне
На «дзевушка, пабліжэй падыходзім»,
Як да беларусаў, без сумненьняў,
Без пытаньняў.
Люблю беларуса за натуральнасьць,
За шчырасьць у шэрасьці позняй восені,
За гісторыю пра нараджэньне ўнука,
«Нарэсьце! Сорак гадоў!»
Люблю беларуса за тое,
Што ён свой.

# Нёману

Дзякую табе, мой Нёмане,
Што прасьпяваў і мне сваю песьню
Старажытную, сакральную.
Мне, што нарадзілася на паўднёвым моры,
Што ня ведала словаў тваёй оды,
Што ня бачыла тваёй белай сьмерці,
Што ня памятала вятрыска твайго
Каля брамы раніцы.
Дзякую табе, мой Нёмане,
Што за некалькі ўздыхаў, за некалькі крокаў,
З вышыні,
Зрабіў зь мяне, нарэсьце, чалавека.

# Скрыпка

Над Гародняй выходзіць
Сарамлівае сонца з-за хмараў.
Здавалася б, яго ня будзе
Да далёкага лета,
Але сонца, мэлёдыя сьвятла сьвятога
Гучыць з-за ціхіх аблокаў
І вітае Гародню, гожую, як скрыпку,
З новым днём,
З новым небам,
З новым жыцьцём
Перад цёмнаю зімой.

# Маршрутка

Цяжка спаць у цёмных маршрутках,
Якія едуць з Гародні ў Менск,
І не даюць глядзець на хараство дарогі,
Ані пісаць вершы зручна,
Ані як сьлед разьвітвацца зь сябрамі,
З правінцыйнаю прыгажосьцю.
Цяжка сядзець і чакаць
Цэлую вечнасьць
Далёкай восеньскай сталіцы,
З халоднымі ступнямі
І гарачым сэрцам,
Якое толькі, мабыць, даведалася,
Як за цябе баліць.

# Менск

Сяброве, вы былі сьведкамі
Маіх шпацыраў, майго блуканьня,
Маёй прысутнасьці ў добрым, старым Менску,
У легендарным месцы маіх дзіцячых мараў
(Паэт — гэта дзіця ў дарослым целе,
Якое хоча на ручкі музаў, і ня больш).
Праз мае вочы вы паглядзелі на велізарныя
будынкі,
Шырокія прасьпекты ды старамодныя помнікі
Як быццам бы ўпершыню
І адчулі радасьць першага сьнегу,
Як бывае толькі ў марскога чалавека.
Сяброве, вы былі сьведкамі,
Што Менск — гэта сон
І жыцьцё аднačасова.

* * *

Я моцна спазьнілася,
За што папрашу
Сто разоў прабачэньня,
Да сьмерці дня.
Ты была самотная,
Пустая,
Калі я цябе ўбачыла ўпершыню
Зь іншага боку вуліцы.
Мой сябар прашаптаў мне на вуха,
«Гэта яна».
І мы пайшлі далей.
Перайсьці да цябе
Ня мела ўжо сэнсу;
Я моцна спазьнілася.

* * *

Памятай мяне восеньскаю ды маладою,
Памятай мяне ў чаканьні на халодным вакзале,
Памятай мяне, што не разумее ўсё яшчэ
Паняцьця чужых праблемаў.
Памятай мяне паэткаю заўжды з нататнікам,
Памятай мяне трохі замежнаю
Ў знаёмых табе месцах.
Памятай мяне пералётнаю птушкаю,
Мройліваю, галасістаю.
Галоўнае, памятай мяне,
Як я цябе ў сэрцы памятаю.

# Дзьверы зачыняюцца

Паветра цяжэйшае на пустым месцы,
Дзе колісь ляжалі ружы
У памяць аб тых, хто сыйшоў
На пустым месцы.
Кветкі ніколі не павінны ляжаць
Пад зямлёю,
Без сьвятла, бяз будучыні,
Паміраючы заўчасна,
Нашмат раней, чым настане
Апошні ўздых.
Асьцярожна! Дзьверы зачынаюцца назаўжды.
Тыя, хто застаўся...
Тых разам з сухімі пялёсткамі падхопіць вецер,
Якога няма пад зямлёю,
Бо паветра цяжкім зрабілася.

# Беларуская мяжа

I

Памежнік упусьціў мяне без праблемаў,
Мяне і — за мною — агромістую валізу,
Нягледзячы на тое, што там была схаваная
Большая за норму колькасьць надзеі,
Добрых пачуцьцяў і жаданьняў,
Вершаў на роднай мове
(На няроднай так ня ўмею),
Пытаньняў і адказаў,

Каляровых успамінаў,
Постмадэрнісцкіх думак,
Паўднёвага тэмпэраменту,
І старадаўніх сакрэтаў.
Памежнік упусьціў мяне з усьмешкай,
Магчыма й менавіта таму.

II

Здавалася б, нічога не зьмянілася,
Каб праспаць кантроль і ня ведаць,
Што Беласток, што Гародня,
Што неба, што зямля,
Што бульба, што яблык
На тэрыторыі без уладара,
Дзе пачынаецца магія,
І здараюцца цуды
(Над)звычайнага быцьця.

### III

Кажуць мудрыя людзі,
Што калі падчас падарожжа
Чалавек нешта забыў, згубіў,
Дык атрымае з той вандроўкі
Штосьці нашмат істотнейшае.
У Беларусі засталася частка маёй душы
(Яна праз мяжу не прайшла).

# Мове

Мая ты сірата, гаворыш ганарліва,
Што колісь кветкі зноўку народзіць табе ніва.

Пакрыўджанай жывеш уласнымі дзяцьмі,
А ўсё ж твой шэпт нам сьніцца: ўставай, далей ідзі.

Баліш ты мне, душа, як родны джаліш край,
Тваю тугу я бачу, я чую твой адчай.

Твой дух жалобна плача, твой крык паветра рэжа,
Апошняю ты ўпала з Бабілёнскае вежы...

Табою гучыць сонца, табою гучыць неба,
Табою гучаць сьпевы, што пяе ўлетку глеба,

Табою робіць цуды дзівосны чарадзей,
Табою свае песьні ўе мілы салавей,

Табою пакутую, табою я чакаю,
Табою народ дойдзе да страчанага раю.

Табою гучыць рэха далёкага каханьня...
Ня будзеш ты праклятай на вечнае маўчаньне!

# Сьведчаньне
## *Апавяданьне*

### Пір

*Кароль Пір з’ехаў з глузду!*
*Вялікі генерал стаў пародыяй*
*Найтрагічнейшага часу.*
*Горад пусты, зьнішчаны,*
*Як і банкетны стол.*
*Некаму ўжо крычыць*
*Разам з шалёным каралём,*
*Nίκη, νίκη, νίκη!*
*Нават вайны ў яго*
*Не засталося.*

Дарагі чытач, дазваляеце, каб мы перайшлі з Вамі на «ты»? Так? Дзякуй. Калі не, я ня ёсьць жывою аўтаркаю, а толькі мёртвымі, выдрукаванымі ўжо словамі (калі знайшліся матэрыяльныя сродкі на публікацыю, вядома). Я ўжо перайшла з табою на «ты». Прабач, калі гэта цябе ў нечым абражае.

Уяві, калі ласка, што ты маладая жанчына ў антычнай Грэцыі. Так, я разумею, што было б нашмат лягчэй папрасіць цябе, чытача, уявіць сябе мужчынам; мужчынскія чытачы ёсьць мужчынамі, а жаночыя чытачы, як мне здаецца, больш прывыклі да такой ментальнай гімнастыкі. Справа ў тым, дарагая — я ўжо перайшла ў жаночы род, не зьвяртай увагі — што нарацыя разьвіваецца ў кантэксьце, у якім мужчынаў, на вялікі жаль, амаль не засталося, і таму лягічна мець гераіню, а не героя (якое трапнае слова!). Зараз будзе ўсё зразумела.

Вясна. Вайна супраць Рыма скончылася. Кароль Пір вяртаўся ноччу ў горад. Твой муж не вярнуўся з бою, але назвалі яго героем, таму ты павінна апрануць найпрыгажэйшую тваю тогу (з таго, што ўдалося выратаваць) і зрабіць фантастычны макіяж; будзеш сядзець побач з каралём. Твой старэйшы брат, у сваю чаргу, ужо некалькі дзён у горадзе, але згубіў правую руку, левае вока і — гэта найважнейшае — розум. Гэта ўжо ня той чалавек, які абараняў цябе ад усялякай крыўды ў дзяцінстве. Ня той, хто пайшоў працаваць, калі твой бацька памёр, яшчэ да вайны. Твой брат не гаворыць, не глядзіць у вочы, не пазнае ані цябе, ані нікога іншага. Ня ў змозе апранацца, есьці, мыцца сам. Гэтым займаесься ты — табе прынцыпова. Яшчэ ты была цяжарная, але згубіла дзіця падчас вайны. Стрэс і недаяданьне справакавалі ў цябе выкідак на чацвёртым месяцы цяжарнасці, пра што ведае толькі твая маці. Ты згубіла першае сваё дзіця з мужам-героем, якога ўжо няма. Ты сабе гэтага не даравала.

Чытач, мы з табой ведаем, што гістарычны грэцкі кароль Пір лічыў гэтую сваю перамогу роўнай паразе. Плутарх жа запісаў ягоныя словы: *Яшчэ адна такая перамога, і я застануся бяз войска*. Я ведаю, што ты чалавек адукаваны і разумны, у змозе, пэўна, працытаваць Піра і па-старагрэцку; не рабі гэтага, гэта гучыць занадта прэтэнцыёзна. Але давай уявім іншую версію той гістарычнай падзеі. Пір, мякка кажучы, адурэў. Ён эйфарычна задаволены вынікам вайны, загадаў прыгатаваць вялікі банкет, і каб ты, Ірэне (як ведаеш, тваё імя значыць «мір» па-грэцку, якраз), удава героя,

сядзела побач зь ім і піла зь ім. Горад зьнішчаны, ежы ўжо няма. Паловы насельніцва ня стала. Але людзі чамусьці накрываюць банкетны стол з энтузіязмам. Пытаесься, адказ адзін — «Галоўнае, вайны ўжо няма. І наш кароль Пір — выдатны генерал, пераможца».

Ясі, як можаш. Пакорліва слухаеш недарэчныя жарты п'янага караля. Адчуваеш, як праклятая перамога расьце ў роце. Раптам твой брат кідае кавалачак сухаватага хлеба на вялікага генерала. У іншай сітуацыі табе было б нават пацешна, але ты, зразумела, без настрою. І, калі шчыра, баісься таго вар'ята, якога называюць каралём. Зьдзіўляесься, калі Пір ласкава просіць пару рабыняў, каб займаліся тваім братам. Табе непрыемна. Ня хочаш, каб брат сядзеў занадта далёка ад цябе, ён бы цябе ня кінуў. Яшчэ больш непрыемна робіцца, калі кароль кладзе далонь на тваю ногу і кажа: «Без інваліда, цяпер ты ўся мая, даражэнькая. Трэба сьвяткаць перамогу, як сьлед!»

Ня ведаеш, што з табой. Не кантралюеш ужо сваё цела. Устаеш і прамаўляеш наступныя словы:

*Вялікі генерал гаворыць пра перамогу. Але я хачу вас, народ, спытаць — якая ж перамога? Вы яе бачыце? Мы ямо сухі хлеб пры сьвяточным стале на дварэ. Горад абсалютна зьнішчаны. І сам стол напалову пусты. Дзе мой муж? Слова «герой» ня мае для мяне значэньня! Лухта на вятры! Ніхто ня верне мне дзіцяці, адзінага ад мужа, якое я згубіла назаўжды падчас той вашай «перамогі»! Глядзіце на майго брата! Ён вярнуўся, так, але ў якім стане? Без рукі, бяз вока... Мяне ня памятае. Мой родны брат-пераможца мяне ня памятае! Перамога,*

*перамога. Якой цаной перамаглі? У нас нічога не засталося! Ні каханых намі мужчын, ні братоў, ні сыноў, ні горада, ні ежы... Нават вайны ў нас не засталося, каб адцягваць нас ад непапраўных стратаў, ад болю, ад жалобы! Калі гэта перамога, дык лепш бы!..*

Натоўп разьюшаны патрабуе, каб цябе затрымалі. Кароль апантана і злосна дае загад. Ахоўнікі не даюць табе даказаць апошні сказ. Удар, чарната. Далёка-далёка чуеш рэха голасу караля: «...вар'ятка. Людзям цяпер патрэбны спакой. Галоўнае — мы перамаглі. Вайны няма і ня будзе».

# Апошні верш

Падманула нас Удача,
То ўсьміхаецца, то плача,
Замінае нам упарта,
І ня кажа нам, ці варта,
Ці няма, ці ёсьць надзея
Адпісацца з забыцьця.
І маўчыць удача злая,
І ніхто яе ня знае:
Маладая Дульцынэя
То яго, а то — твая.
То душа ляціць да зораў,
То плыве сярод двух мораў,
То на пляжы, то ў Парыжы,
То прачнесься ты на крыжы.
Што з таго, што чалавек
Выпіў лішні, недарэчны
Келіх добрага віна?
Дажывеш зямны свой век,
Вось і розьніцы няма,
Ці ў агні згараеш вечным,
Ці ты ў вечны трапіў рай,
Для танцора, для паэта,
Для цябе гудзе планета:
Ці танцуй, ці памірай.

# Змест

## ВЯСНА І ЯЕ ЖАРСЬЦІ
*Аб тым, як прырода і каханьне прачынаюцца адначасова*



## ЧАС, ЯКІ ПАЖЫРАЕ КАХАНЬНЕ
*Аб тым, што не заўсёды ад нас залежыць*

## ПЛЫНУЦЬ ЗІМОВЫЯ ВЕТРЫ

*Аб тым, што прыгажосьць зімы літасьці ня знае*



## ТРЫЯЛЕТАР

*Аб дэсакралізацыі*
*цьвёрдых формаў паэзіі*



## КРОЗЫ І БАГАТЭЛЫ

*Аб усім і ні аб чым*

## ВІНО НА ЗАЛАТОЙ КОЎДРЫ ВОСЕНІ

*Аб восеньскіх колерах*
*у душы чалавека*



## МАЁЙ БЕЛАРУСІ

*Проста маёй Беларусі*

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 94

**Эспіноса Руіс** Анхела

**POMME DE CIEL**

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *У. Някляеў*
Вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктар *Ю. Мацук*

Падпісана да друку 26.05.2017. Фармат 80х100 1/32.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 4,63.
Ул.-выд. арк. 1,76. Наклад 200 ас. Зак. 232.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.